# Няхай жыве 43-я гадавіна Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі!


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 45 (245) | ГОД V | БЕЛАСТОК, 6 ЛІСТАПАДА 1960 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.




„КАМУНІЗМ — ГЭТА ЁСЦЬ САВЕЦКАЯ ЎЛАДА ПЛЮС ЭЛЕКТРЫФІКАЦЫЯ ЎСЁЙ КРАІНЫ"

*Ул. Ленін*

АРКАДЗЬ КУЛЯШОЎ

## ПЯЦІГОДКА

Яна падышла да мяне і сказала:
— Таварыш, паслухай сягоння мяне —
За долам зялёным, за чорным вакзалам
Прасторы бязмежныя сняць аб вясне...

І я зразумеў, ахмялеў ад уздыму,
Рашучыя словы да мэты вялі...
Прасмалены сталлю, пракопчаны дымам,
Я зноў на знаёмыя ехаў палі.

Шырокае поле, мае вы загоны!
Таемныя шэпты і спеў каласоў...
Як вецер шумлівы, як віхар зялёны,
Цягнік прыпыніўся ля сініх лясоў.

І ў працы напорнай, і ў працы магутнай
Праплыў па-над полем, над вёскаю час —
І вырас на ніве, як волат чыгунны,
Як дзень — пераможны калгас.

І потым вясной, дзе раней былі межы,
У новай красе зацвіталі палі —
Прыходзіў вялікі, прыходзіў мяцежны
І радасны росквіт суровай зямлі.

Сябры! Ў будаўнічых рашучых паходах,
Дзе сэрцы палаюць любімай зарой,
На карце вялікіх жывых пяцігодак
Мы творчыя справы акрэслім мяжой.

Хай новыя людзі на заўтра пабачаць,
Як сэрцы імкнуліся край будаваць,
Пабачаць і ў песнях прачулых адзначаць
Адважных байцоў незлічоную раць.

Пачуюць магутную песню заводаў,
Убачаць няведамы росквіт зямлі,
І разам па карце жывых пяцігодак
Пазнаюць, чым нашыя сэрцы жылі.

## ТУТ ЖЫЎ І ПРАЦАВАЎ ЯКУБ КОЛАС

(Глядзі фотарэпартаж — стар. 3)



# НА СІБІРЫ ВЫРАСЦЕ ВІНАГРАД

### ПРАЕКТ БАРЫСАВА

Новы праект пакарэння Гальфстрыма (Цёплага цячэння ў Атлантычным акіяне) прапанаван савецкім інжынерам Барысавым. Сутнасць праекта заключаецца ў наступным: прапануецца злучыць два мацерыкі — Азію і Паўночную Амерыку велізарнай плацінай даўжынёй 74 кіламетры і вышынёй — 50 — 60 метраў. Гэтая плаціна перакрые праліў Берынга.

Магутныя помпы праз шырокія вадагоны, пабудаваныя ў плаціне, будуць перакідваць за адны суткі 500 кубічных кіламетраў халоднай вады з арктычнага басейна ў Ціхі акіян. Пры такой рабоце плаціны - помпы ўзровень Ледавітага акіяна павінен панізіцца на 20 метраў за год. Так будуць створаны ўмовы для ўзмоцненага прытоку цёплай вады з Атлантыкі. Цёплым цячэннем сістэмы Гальфстрым будзе адкрыта зялёная вуліца праз



Паўночны полюс у Ціхі акіян.

У ледзяную маўклівасць Поўначы сусветны акіян з дапамогай чалавека пракладзе свае ацяпляльныя «трубы». Пачнецца растваранне ільдоў акіяна.

Калі будзе ажыццёўлен такі смелы праект, амаль 35 мільёнаў квадратных кіламетраў паверхні сухазем'я і акіянаў назаўсёды будуць вызвалены ад ільдоў і снегу.

**Далёка на поўдзень ад Паўночнага полюса пацяплее клімат. У Маскве нават у самыя халодныя зімовыя дні тэмпература не будзе апускацца ніжэй нуля, а ў звычайныя зімовыя дні тэмпература паветра складзе каля 6—12 градусаў цяпла. Клімат Сібіры будзе блізкі да кліматаў сярэдняй паласы Украіны. Прасторы Якуціі пакрыюцца садамі, а тундра Поўначы ператворыцца ў квітнеючыя сады. Такія ж дзівосныя змены адбудуцца на прасторах Аляскі, Канады, поўначы Японіі і нават у краінах Паўночнай і Цэнтральнай Еўропы. Назаўсёды знікне пагроза замаразкаў для садоў і вінаграднікаў.**

Яшчэ не так даўно аб праектах пабудовы плаціны праз Ла-Манш альбо тунеля праз Еўропу ў Амерыку мы чыталі толькі ў пісьменнікаў - фантастаў. Інакш сустрэт праект Барысава. Яго горача абмяркоўваюць вучоныя і інжынеры многіх краін свету.

### ПРАЕКТ РАМАНАВА

Ёсць і іншыя цікавыя праекты, якія ставяць задачай палепшыць клімат зямнога шара. Паводле аднаго з гэтых праектаў, прапануецца выкарыстаць магутныя сілы космаса. Яшчэ ў далёкія старажытныя гады было заўважана, што ўзровень акіяна, падначальваючыся волі Месяца і Сонца, перыядычна мяняецца. Ён то ідзе магутнай сцяной на берагі мацерыкоў, то адкочваецца назад, каб зноў пачаць сваё наступленне. Такая заканамернасць у прыродзе створана прыцяжэннем Сонца і Месяца.

Савецкі інжынер Раманаў распрацаваў праект змянення клімату далёкаўсходняга ўзбярэжжа СССР. У сваіх разліках ён грунтуецца на адхіленні цёплага цячэння Кура - Сіва да берагоў Азіі. Як жа можна дамагчыся гэтага? Толькі адно з адгаліненняў Кура - Сіва набліжаецца да берагоў Сахаліна і Японіі, але яно мала ўплывае на клімат гэтага раёна. Вярчэнне Зямлі адхіляе цячэнне на ўсход.

Інжынер Раманаў прапануе ў вузкім праліве Невельскага, што аддзяляе востраў Сахалін ад мацерыка, пабудаваць дамбу з некалькімі шырокімі варотамі, якія будуць адкрывацца толькі ў бок Ахоцкага мора. Усю працу тут будзе выконваць наш векавечны спадарожнік — Месяц. У час прыліваў цёплыя воды Кура - Сіва з Татарскага праліва праз адкрытыя вароты дамбы хлынуць у Ахоцкае мора. Калі ж пачнецца адліў, то вароты аўтаматычна зачыняцца, і цёплыя воды Кура-Сіва ўсё далей і далей будуць пранікаць у глыбіню Ахоцкага мора, паступова награваючы яго тоўшчы. Як паказваюць разлікі, праз вароты дамбы можна будзе пераганяць за год каля 1.100 кубічных кіламетраў цёплай вады. Гэта ў чатыры разы больш за тую масу вады, што прыносіцца ў Каспійскае мора Волгай.

Праект Раманава прадугледжвае значнае паляпшэнне клімату Далёкага Усходу. Пацяплее Крайняя Поўнач, тундра пакрыецца лясамі і лугамі. Ніколі не будуць замярзаць воды Ахоцкага мора і Татарскага праліва.

Падлічана, што дамба — лавушка для вод Кура-Сіва — будзе мець у даўжыню менш 10 кіламетраў, а яе вышыня складзе 25 метраў. Збудаванне гэтай плаціны магчыма і ў наш час.

# ВІДЫ З АФГАНІСТАНА



Гарадок Істалеф. Звярніце ўвагу на цікавую ступеньчатую архітэктуру горада.



Адпачынак з неразлучнай люлькай.




Многа я чытаў кніжак, дзе апісвалася каханне і сямейнае жыццё. Але ў жыцці рэдка бывае так, як у кніжках. Коратка аб сабе. Як я задумаў жаніцца, дык мне хацелася ажаніцца з вельмі прыгожаю дзяўчынай. І так сталася. Я ажаніўся з прыгажуняй. Але з ёю мне жыццё не ўкладалася. Мы разышліся. Другі раз я ажаніўся зноў з маладою і вельмі прыгожай дзяўчынай. Ізноў не маглі мы зжыцца. Пасля гэтага я ўжо не кіраваўся толькі прыгажосцю, шукаючы новую жонку. Я стаў глядзець ужо і на характар. І зараз ажаніўся трэці раз і толькі цяпер жыву добра, шчасліва.

Мой вывад з уласнага вопыту.

Асноўнае ў сямейным жыцці добры характар чалавека, разумны падыход да жыцця, згодныя зацікаўленні. Гэта ўсё мае вялікі ўплыў на шчырае каханне паміж мужам і жонкаю. І аб гэтым павінны помніць усе кандыдаты да жанячкі і замужаства.

**Мікола С.**
з Беластока

**Я сваіх каментарыяў не даю. Яны непатрэбныя.**

**Сэрцайка**




**Урыўкі з кнігі Драчынскага з падарожжа праз Паўднёвы Судан у Афрыцы.**

«Здалёк відны былі дамы і нейкія шалашы, падобныя на вялікія кучы жэрдак пастаўленых тонкімі канцамі ўверх.

— Гэта лагер жывёлаводаў — сказаў праваднік. Тут ужо землі дзінка (назва племені—рэд).

Мужчыны былі густа вымазаны попелам, жанчыны вельмі прыгожага складу, стройныя, высокія, з доўгімі нагамі і тонкімі таліямі. Цела памазана тлушчам. Упрыгожаныя пацёркамі на шыі і нагах.

Хутка мы напаткалі яшчэ адзін лагер. Тут мы ўбачылі такую сцэну. Група жанчын і мужчын стаяла на беразе і глядзела на параход. Нейкі мужчына, галубы ад попелу хутка пабег да берага, хіба хацеў паглядзець на параход. Але як толькі ён наблізіўся да жанчын, тыя нешта закрычалі, замахалі на яго рукамі. Чалавек стрымглаў кінуўся назад. Гэта нам паказалася дзіўным, тым больш, што іншыя мужчыны стаялі з жанчынамі і смяяліся разам з імі. Толькі адна з жанчын— старэйшая, схавалася, прысеўшы за сваіх сябровак.

— Я думаю, гэты чалавек убачыў маці сваёй жонкі! — сказаў праваднік.

**У дзінка ёсць такі абычай: мужчына робіць добра, калі ніколі не сустракаецца са сваёй цешчай. Калі ён убачыць яе голай, то павінен заплаціць штраф каровамі або півам.** Пазбегнуць такой сустрэчы даволі цяжка, бо амаль ніхто з дзінкаў не носіць адзежы.

Некалькі вясельных звычаяў. Маладая ўдава пераходзіць да брата мужа, або да блізкага сваяка. Дзеці родзяцца ад імя памершага мужа і называюцца яго імем. Гэты абычай называецца «шлюбам духа». Калі нават чалавек памрэ нежанатым, яго прыяцель, ці сваяк, павінен узяць жонку ад яго імя і захоўваць яго род.



**Папірусны лес.**

**Папірус у Судане расце ў вялікай колькасці. Гэта добры матэрыял для вырабу паперы.**

У краіне дзінкаў бываюць вялікія лівні са страшнымі маланкамі і перунамі. У гэты час наплываюць цёмныя хмары і здаецца, што на зямлі запанавала ноч. І толькі бляскі маланкі рассвятляюць цемень. У такі час дзінкі набіраюць у рот вады і сядзяць на кортачкі. Гэта мае абараніць іх ад злых духаў, якія кіруюць перунамі.




# З САВЕЦКАГА ГУМАРУ



САВЕТ ВЕТЭРАНА: «Раю вам быць асабліва асцярожным, на 113897-м кіламетры!»

# Арцельныя СПРАВЫ

Раскажу вам сёння, людзі добрыя, аб нашых літаратурных справах. Што гэта за справы? Была, вось, напрыклад, на старонках нашай «Нівы» сельгаслітарцель Андрэя Самасея. Добрая гэта была арцель, салідная. Бывала возьмецца арцель за нейкага шалавілу — ніткі сухой на ім не аставіць. Ды вось, у апошні час, салідная арцель сталася зусім рахітычнай, працуе ўсё з большымі перапынкамі.

Як самі ведаеце, у нашай «Ніве» вяду я індывідуальную гаспадарку. Таму, шчыра кажучы, на ўсе гэтыя самасеявыя арцельныя непаладкі гляджу ды вус падкручваю.

— Пасеяць, — думаю сабе, — гэта вельмі лёгка. Але сабраць пасеў і давесці яго да ладу, гэта ўжо больш складаная справа.

Міхась Красоўскі з Малынкі нядаўна кліч кінуў арцельшчыкам, моў: «Дзе ж вы арлы баявыя». Кліча і падбадзёрвае Міхась арцельшчыкаў. Відаць не разумее ён адной асноўнай праўды, што ніводная арцель не можа існаваць без цягавой сілы.

На маю думку, трактар патрэбны Самасею. Бо толькі трактарам змог бы ён зацягнуць сваіх арцельшчыкаў у «Ніву».

Нашыя чытачы вельмі чулліва адносяцца да свайго часопіса. Іх вельмі цікавіць хто што піша і чаму не піша.

На маю думку, каб задаволіць цікавасць чытачоў, у арцель Самасея неабходна выслаць кантроль. Хто ведае, мо' там літаратурныя злоўжыванні завяліся мо' ганарар не падзялілі, або яшчэ горш, з паэтычнай дзейнасці перайшлі на вытворчасць нейкай квашаніны. А так дагадвайся тут, браток, што з арцелю дзеецца, ці зернавы фонд разваклакі, ці рымы згнаілі, хто іх ведае.

Усе чытачы былі сведкамі нараджэння арцелі Самасея, а вось на хаўтурах ніхто не быў. Я калі б ведаў, на якім могільніку арцель пахавана, на помніку дапіс зрабіў бы: «Памерлі змоладу ад тэматычнага голаду». Між іншым, людзі добрыя, дарэчы тут успомніць прымаўку: Чужую бяду рукамі разваду, а са сваёй не спраўлюся. А ўсё ж такі ў заключэнні хочацца сказаць Андрэявай арцелі:

— Што ж вы, хлопцы, анямелі.
Не чуваць вас у нядзелі,
У будны дзень не відна вас,
Нудзіцца без вас Міхась.

Дзядзька Левон

### ПАМІЖ ПРАДАЎЦАМІ

— Ну, як у цябе справы?
— І не пытайся, кожны месяц дакладваю.
— Дык тады закрывай магазін.
— Дзякую за параду, а з чаго ж тады жыць буду.

**Мікола Іванюк**
Бельск

### ДАПАМОГА ЛЕКАРА

Хворы памешчык гаворыць да лекара:
— Дарагі прыяцель, ад сённяшняга дня я не буду плаціць табе за агледзіны. Затое па маёй смерці атрымаеш усю маю спадчыну. Ці ты згодны?
— Пэўна, — кажа ўзрадаваны лекар, — але дайце мне сваю рэцэпту, я выпішу вам другую, прыпішу такое лякарства, каб вы хутчэй памерлі.

**Янка Ясвіловіч**
Пасынкі




### ПАВЕСІЎСЯ

Пасварыўшыся з жонкай, мужык задумаў павесіцца. Узяў ён вяроўку і пайшоў над рэчку да найбольшай вярбы, каб нагамі не дастаць да зямлі.

Праз нейкі час прыйшла над рэчку жанчына пакупацца. Убачыўшы вісельніка, яна кажа:
— Царства нябеснае табе, няшчасны чалавеча
Прыгледзеўшыся лепш, дадала:
— Але чаму вяроўка пад рукамі, добрыя людзі закладаюць вяроўку на шыю, а не пад рукі.
Пачуўшы гэтыя словы, вісельнік кажа:
— Спрабаваў і я залажыць вяроўку на шыю, але не дае дыхаць.

**Васіль Бірыцкі**
Семяноўка

### СТАЛЯР І КАВАЛЬ

Прыехаў да Марысі ў сваты Андрэй — слаўны на ўсю аколіцу сталяр — і кажа:
— Пойдзеш за мяне?
А Марыся на гэта:
— Калі ў мяне ўжо быў Іван — слаўны на ўсю аколіцу каваль — і казаў, каб я за яго ішла.
— Пакінь гэта, — кажа сталяр, — ён сляпы, бо раз б'е па жалезе, а дзесяць разоў па кавадле.
Марыся задумалася.
Прыязджае каваль, яна яму і кажа:
— У мяне быў сталяр Андрэй і гаварыў, што ты сляпы.
А каваль на гэта:
— Ён сам сляпы, бо калі габлюе, то заўсёды гладзіць дошку рукой.
Марыся зноў задумалася і не пайшла ні за каваля, ні за сталяра. Яна яшчэ цяпер чакае, каб да яе прыехаў жаніх.

**Надзя Ананюк**
Ласінка

### СПАЛОХАЎСЯ

Малы Пеця бачачы, што бабуля недзе выходзіць, пытае бацьку:
— Тата, куды бабулька ідзе?
— У музей, — кажа бацька.
— Назаўсёды? — спалохаўся Пеця.

**Андрэй Сідарук**
Сакі.



Бацькі і дзеці.




## НАРОДНЫ ГУМАР БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

# КРУЦЕЛКІ З-ПАД КАРЫЦІНА

**(Сакольскі павет)**

Dziewuleńko kwietko,
Twaje radno ryedko.

Sama bieła adubieła,
Mnie młodego nie nahryeła.

*

Paszła Frania pa miekinu,
Wieła Jaśka za czuprynu.

Za czuprynu, za ucho —
Chadzi, Jaśku, psia jucho!

*

Jak żouniera nie lubić
Kiedy z im, oj, dobro żyć:

I krupe, i muka,
I szynelka szyraka.

*

Stara chata, nowa piecz,
Chto maje żonku — dobra ryecz.

A chto swaje ni maje,
To za czużymi brykaje.

*

Kałodka, kałodka,
U nas wodka sałodka;

Jak ja wodki napjusie,
Na kałodku zwalusie.

(Michał Fedorowski, Lud białoruski, tom VI).



оцны арэшак.